# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№11 (246)
лістапад 2022

Інфармацыйны бюлетэнь • Супольнасць беларусаў свету "Бацькаўшчына"



## У НУМАРЫ:

### Адышоў у лепшы свет Вітаўт Кіпель

3 снежня адышоў на вечны спачын шматгадовы старшыня Беларускага інстытуту навукі і мастацтва (БІНіМ) доктар Вітаўт Кіпель, навуковец, доктар мінералогіі, даследчык і дзеяч беларускай эміграцыі ў Нямеччыне, Бельгіі і ЗША. Яму было 95 гадоў.

Старонка 2

### Беларусы Беластока адкрылі "Новую зямлю"

Фундацыя "Хаб «Новая зямля»" прэзентавала 3 снежня ў Беластоку новую беларускую прастору. Гэта месца, паводле арганізатараў, мае стаць супольнай пляцоўкай для розных беларускіх арганізацый, ініцыятыў і актывістаў.

Старонка 4

### Праект, які распавядае школьнікам у Польшчы пра жнівень 2020-га

Пра дэмакратыю і правы чалавека на прыкладзе жнівеньскіх падзей: беларускія актывісты ў Польшчы ладзяць праект пад назвай "Гадзіна адсюль на ўсход" (Godzina stad na wschod).

Старонка 7




# ВЫЙШАЎ "БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР-2023". МАЛЮНКІ І СЛОВЫ НА КОЖНЫ ДЗЕНЬ

5 прычын, каб яго набыць

Грамадская кампанія "Будзьма беларусамі!", Міжнародны саюз беларускіх пісьменнікаў і фонд Kamunikat.org выдалі "Беларускі каляндар-2023" з малюнкамі і словамі на кожны дзень. Цяпер беларусы замежжа, нават знаходзячыся за тысячы кіламетраў ад радзімы, могуць лёгка замовіць сабе беларускі каляндар. І мы налічылі ажно 5 прычын, чаму варта гэта зрабіць.

**1. Дапамагае вучыць беларускую мову**

Каляндар – сапраўдная скарбонка сакавітых, адметных беларускіх слоўцаў, дбайна падабраных руплівымі выдаўцамі. Тэмы самыя розныя: тут і назвы раслінаў і жывёл, назвы інструментаў, прадметаў вопраткі, мэблі, прыродных з'яваў... Нават добрыя знаўцы беларускай мовы знойдуць нешта цікавае для сябе.

**2. Дорыць добры настрой**

Калі падаецца, што ўсё ў жыцці змрочна і настрою зусім няма, пагартайце хвілінку "Беларускі каляндар". Яскравыя і пазітыўныя малюнкі дапамогуць падняць настрой.

Працяг на старонцы 6

НЕ ВАЙНЕ!



ВЫ МОЖАЦЕ ДАПАМАГЧЫ



in memoriam

# АДЫШОЎ У ЛЕПШЫ СВЕТ ВІТАЎТ КІПЕЛЬ

3 снежня адышоў на вечны спачын шматгадовы старшыня Беларускага інстытуту навукі і мастацтва (БІНіМ) доктар Вітаўт Кіпель, навуковец, доктар мінералогіі, даследчык і дзеяч беларускай эміграцыі ў Нямеччыне, Бельгіі і ЗША. Яму было 95 гадоў.

Няспынная навуковая, даследчыцкая і грамадская дзейнасць спадара Вітаўта Кіпеля зрабіла каласальны ўнёсак у беларускую культуру, а беларускае навуковае эміграцыязнаўства, пачынальнікам якога ён па праве лічыцца, немагчыма ўявіць без яго культавых кніг: манаграфіі "Беларусы ў ЗША" і складзенай у суаўтарстве разам з жонкай Зорай Кіпель фундаментальнай "Бібліяграфіі беларускага і беларусаведнага друку на Захадзе".

Многія людзі ў Беларусі і за яе межамі знайшлі свой шлях да Беларушчыны ці зрабілі даследаванне Беларусі і яе культуры справай свайго жыцця дзякуючы грунтоўнаму даробку і заўсёднай падтрымцы парадамі і імпэтам ад спадара Вітаўта Кіпеля.

Мы смуткуем і выказваем шчырыя спачуванні сваякам, блізкім спадара Вітаўта Кіпеля, а таксама ўсім, хто яго ведаў, натхняўся яго працамі і падыходам да справы.

**Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"**

# "ЗАЎСЁДЫ ЖЫЎ БЕЛАРУССЮ І БЕЛАРУСІКАЙ"

Даследчыца беларускай дыяспары Наталля Гардзіенка пра Вітаўта Кіпеля.

3 снежня адышоў на вечны спачын адзін з найстарэйшых дзеячаў беларускай дыяспары, шматгадовы старшыня Беларускага інстытута навукі і мастацтва (БІНіМ), даследчык гісторыі эміграцыі, геолаг, бібліёграф, доктар Вітаўт Кіпель.

Свамі ўспамінамі пра слыннага грамадскага дзеяча і свайго Настаўніка падзялілася даследчыца беларускай дыяспары Наталля Гардзіенка.

"Адышоў мой настаўнік… Не, ён не вучыў мяне ні ў школе, ні ва ўніверсітэце. Але свае кнігі рабіла натхнёная ягонымі даследаваннямі, карыстаючыся ягонымі парадамі і падтрымкаю. Найлепшай узнагародай заўсёды было пачуць ягоны прыхільны водгук, ягоную ўхвалу.

Калі апошні раз тыдзень таму чула ягоны ўжо такі слабы, нібы з іншага свету, голас, немагчыма было стрымаць слёз. Потым доўга пераглядала здымкі з нашых спатканняў, згадвала размовы…

Мы пазнаёміліся ў Менску яшчэ ў 2000-х і фактычна апошнія 15 гадоў былі на сувязі. Асабліва пасля 2016-га, калі я ўпершыню трапіла да яго ў ЗША. Спадар Вітаўт сам прыехаў тады па мяне ў Сомерсэт да свайго сябры Янкі Запрудніка і адвез "да сябе", у дом Юркі і Ларэйн. А потым былі колькі дзён, калі я корпалася ў кнігах, паперах і мы шмат размаўлялі пра ўсё. А праз год яшчэ спатканні і бясконцыя размовы…

Са спадаром Вітаўтам у нас больш за паўстагоддзя розніцы, але размаўляць з ім магчыма было зусім лёгка і пачувацца амаль на роўных. Некаторы час ён мог зазваніць мне наўпрост у Менск, каб нешта абмеркаваць ці спытаць, як справы. Аднойчы, забыўшыся пра розніцу ў часе, зазваніў сярод ночы і атрымаў вымову ад маёй маці, пра што згадваў праз усе наступныя размовы.

Нягледзячы на каласальны досвед, на розныя значныя пасады і ўзнагароды, якія меў за сваё жыццё, ён быў вельмі просты чалавек, зусім "свой". Любіў смачна паесці, любіў спяваць куплеты, што памятаў з галоднага дзяцінства.

А яшчэ ён вельмі любіў кнігі. Спадар Вітаўт быў сапраўды "кніжным" чалавекам. І не толькі праз працяглую працу ў Ньюёркскай публічнай бібліятэцы ці ўласныя кнігі, але і праз шматгадовую выдавецкую дзейнасць у БІНіМе. Выкарыстоўваючы ўсе свае камунікацыйныя здольнасці, ён знаходзіў неабходнае фінансаванне на выданні Інстытуту, або даваў грошы з уласнае кішэні. Ён з цікавасцю абмяркоўваў змест будучых кніг, а потым дбаў пра распаўсюд.



Спадар Вітаўт шчыра цікавіўся новымі выданнямі. Таму пасля выхаду кожнага першы асобнік дасылаўся яму. І ў падарунак прывозіліся кнігі. Ён не мог не чытаць. А прачытаўшы, не мог не дзяліцца з кімсьці думкамі аб прачытаным. Кнігі былі ягоным жыццём.

У спадара Вітаўта была вельмі добрая памяць. Можна было дасылаць яму здымкі з сярэдзіны XX стагоддзя, і ён пазнаваў на іх людзей, згадваў гісторыі, з імі звязаныя.

І "Беларусы ў ЗША" чыталіся для мяне не толькі як даследаванне пра суродзічаў у чужой краіне, але і як ягоны аповед пра самога сябе, сваю сям'ю, бацькоў, якія не па ўласным жаданні сталіся часткаю агромністай грамады беларускіх эмігрантаў.

Вітаўт Кіпель, як і ягоная жонка Зора, заўсёды жыў Беларуссю і беларусікай. Яшчэ у 1990-х яны мелі намер вярнуцца ў Беларусь, каб працаваць на карысць незалежнай дзяржавы. Не атрымалася. Але спадар Вітаўт рэгулярна прыязджаў, пакуль мог, і да апошняга цікавіўся тым, што адбываецца ў Беларусі, шчыра перайма́ўся сумнымі навінамі.

Я шмат за што ўдзячная спадару Вітаўту. І за тое, што ён прыняў мяне ў кола сваіх сяброў, зрабіў часткаю БІНіМу, даверыў свой архіў, даў магчымасць дапамагаць у перавыданнях ягонай кнігі. І за ягоную няспынную падтрымку і клопат.

Не магу ўявіць сваю працу без ягоных парадаў. Немагчыма забыцца на ягоны голас. Часам, калі рыхтавала да публікацыі той ці іншы ягоны тэкст, нібыта чула, як спадар Вітаўт гаворыць.

Да канца свайго жыцця буду ўдзячная лёсу, што ён пазнаёміў мяне з чалавекам, які стаў сапраўды блізкім. І цяпер з ім для мяне насамрэч сыходзіць эпоха. Немагчыма думаць пра БІНіМ без яго.

Дзякуй Вам, спадар Вітаўт, за ўсё. Можа аднекуль зверху, разам са спадарыняй Зорай, Вы паранейшаму будзеце дапамагаць, як рабілі гэта тут. А я буду пра Вас памятаць".

**Наталля Гардзіенка, budzma.org**

Дзяды

# ЯК БЕЛАРУСЫ ВІЛЬНІ ЎШАНАВАЛІ ПАМЯЦЬ СУАЙЧЫННІКАЎ НА ДЗЯДЫ

2 лістапада, на восеньскія Дзяды, беларусы Вільні ўшанавалі памяць беларускіх дзеячаў, пахаваных на галоўным віленскім некропалі, могілках Росы.

Арганізаваў падзею Віленскі беларускі музей імя Івана Луцкевіча.

Мерапрыемства не нагадвала афіцыёз з урачыстым ускладаннем кветак, хутчэй было падобнае на экскурсію, якую праводзіла кіраўніца музея, актывістка беларускай грамады Людвіка Кардзіс.

Удзельнікі запалілі знічкі і павязалі белыя ды чырвоныя стужкі на магілах паэта Уладзіслава Сыракомлі, святара, культуролага, гісторыка ды літаратуразнаўцы Уладзіслава Талочкі, святара, грамадскага дзеяча, паэт і музыканта Казіміра Сваяка, галоўнага архітэктара БНР Лявона Вітан-Дубейкаўскага, "бацькі беларускага музея", археолага, гісторыка, этнографа Яўстаха Тышкевіча, мецэната, сябра Францішка Багушэвіча Зыгмунта Нагродскага, сям'і Ямантаў, з якой паходзіла каханая Кастуся Каліноўскага Марыя Ямант, аднаго з арганізатараў паўстання 1863 года Аляксандра Аскеркі, кенатафах – сімвалічных магілах – "бацькоў БНР" Івана і Антона Луцкевічаў і драматурга Францішка Аляхновіча (помнік якому некалькі дзён таму аднавіла беларуская грамада) і іншых вядомых віленскіх беларусаў.




budzma.org

## ЗМІТРАЎСКІЯ ДЗЯДЫ Ў ВІЛЬНІ

5 лістапада на Змітраўскія Дзяды беларусы Вільні ўшанавалі памяць продкаў і наведалі Еўфрасіннеўскія ці Ліпаўскія могілкі, на якіх пахаваныя шматлікія беларускія дзеячы і дзячкі мінулага і сучаснага культурнага жыцця.

Алесь Адамковіч, старшыня Таварыства беларускай культуры ў Літве, правёў цікавую і пазнавальную экскурсію па могілках.

Наведвальнікі змаглі аддаць даніну памяці Алене Сакаловай-Лекант, Паўлу Карузу, Лявону Мурашку, Сяргею Паўловічу, Зоі Коўш і Аляксандру Каўшу, Міхаілу Плісу, Аляксею Анішчыку, Аляксандру Данілевічу, Антону Антановічу, Юрыю Зімніцкаму, Канстанціну Шышэю, Хведару Нюньку ды іншым.

Дзякуючы Таварыству беларускай культуры ў Літве многія наведнікі з беларусаў новай хвалі змаглі ўпершыню адкрыць для сябе яшчэ адзін беларускі некропаль Вільні – нароўні з Росамі, Сонечнымі і Антокальскімі могілкамі.

Зрэшты, ва ўмовах немажлівасці для многіх паехаць на радзіму на могілкі, такое наведванне могілак у Вільні сталася важнай заменай і знаёмствам з мясцовай беларускай культурай.

Уладзіслаў Гарбацкі, "Новы час"






## БЕЛАРУСЫ ВАРШАВЫ АДСВЯТКАВАЛІ ДЗЯДЫ ШЭСЦЕМ

Беларусы польскай сталіцы першага лістапада адсвяткавалі Дзяды шэсцем.

Сабраліся на плошчы Пілсудскага, рушылі да помніка Адаму Міцкевічу, потым – на Замкавую плошчу. У кожнай кропцы маршрута калоны гучалі прамовы аб сітуацыі ў Беларусі, ва Украіне, успаміны пра шэсці на Дзяды ў Мінску.

Шэсце завяршылася супольнай малітвай і выкананнем гімна "Магутны Божа" ля мемарыялу ахвярам расстрэлу ў Катыні.

Алена Ляшкевіч для budzma.org

навіны

# БЕЛАРУСЫ БЕЛАСТОКА АДКРЫЛІ "НОВУЮ ЗЯМЛЮ"

Фундацыя "Хаб «Новая зямля»" прэзентавала 3 снежня ў Беластоку новую беларускую прастору. Гэта месца, паводле арганізатараў, мае стаць супольнай пляцоўкай для розных беларускіх арганізацый, ініцыятыў і актывістаў.

"Гэта пляцоўка будзе на карысць беларусам у Беларусі і на карысць нашай будучай дэмакратычнай Бацькаўшчыны. Тут будуць адбывацца розныя імпрэзы, адукацыйныя і забаўляльныя мерапрыемствы, культурныя і палітычныя, дробныя і маштабныя, мясцовыя і паміж гарадамі і краінамі, для дзяцей і падлеткаў, для сеньёраў і творчых людзей. І гэта ўсё – і не толькі гэта – з задавальненнем будзем рабіць разам", – распавяла на пачатку сустрэчы Надзея Салаўёва, адна з арганізатараў хаба.

Місія хаба – развіццё грамадска-палітычнай актыўнасці, захаванне самаідэнтычнасці беларусаў, якія вымушана пакінулі Беларусь і часова пражываюць у Беластоку, а таксама адбудова нармальнага ладу жыцця беларусаў у выгнанні.



Кацярына Ваданосава з дачкой Стэфаніяй

На адкрыццё новай беларускай прасторы сабралася шмат зацікаўленых гэтай ідэяй беларусаў. З прывітальнымі і віншавальнымі словамі выступілі прафесар Алег Латышонак, журналіст Руслан Кулевіч, дэпутат польскага Сейма Роберт Тышкевіч, дзяячка беларускай дыяспары ў Беластоку Кацярына Дзерман, гаспадар гродзенскай крамы "Адметнасць" Сяргей Верамеенка і іншыя. Музыкі Кацярына Ваданосава з дачкой Стэфаніяй і Ігар Палынскі дапоўнілі сустрэчу невялікім канцэртам.

Арганізатары пляцоўкі таксама распавялі, што зараз вядзецца праца над сайтам хаба, дзе будуць з'яўляцца анонсы будучых мерапрыемстваў. Дарэчы, наступнае – заняткі па ёзе – мусіла адбыцца ўжо на наступны дзень. Гэтаксама тут цяпер будзе праводзіцца "Мова нанова" і будзе магчымасць карыстацца хабам як каворкінгам.

Знаходзіцца "Новая зямля" амаль у цэнтры горада, па адрасе Wyszyńskiego 6A.

Дар'я Палынская, budzma.org

# БЕЛАРУСЫ КОЎНА ЗБІРАЮЦЬ СРОДКІ НА АДНАЎЛЕННЕ МАГІЛЫ КЛАЎДЗІЯ ДУЖ-ДУШЭЎСКАГА

Плануецца памяняць надмагільную шыльду, каб былі надпісы і па-беларуску, усталяваць два флагштокі для бел-чырвона-белага сцяга і герба "Пагоня", аднавіць надмагільныя пліты.

Да распрацоўкі дызайну шыльды і надмагільнай прасторы плануецца прыцягнуць беларускіх дызайнераў і мастакоў. Урачыстае адкрыццё будзе прымеркавана да Дня Волі, 25 сакавіка. Збор будзе доўжыцца тры месяцы.

Клаўдзій Дуж-Душэўскі – сябра Рады БНР, аўтар бел-чырвона-белага сцяга, архітэктар Літбудпраекта і дацэнт Ковенскага ўніверсітэта. Двойчы быў арыштаваны савецкімі ўладамі, вязень нямецкага концлагера, затрымліваўся польскімі ўладамі. За дапамогу габрэям падчас Другой сусветнай вайны ўзнагароджаны прэзідэнтам Літвы (пасмяротна).

**Рэквізіты для збору:**

Атрымальнік: VŠĮ POLYGLOT LANGUAGE ORGANIZATION

Рахунак: LT687300010171217703

Мэта плацяжу: Duzh-Dusheuski

budzma.org






# ЮЛЯ ЦІМАФЕЕВА ВЫДАЛА ПЕРШЫ ПАЭТЫЧНЫ ЗБОРНІК ПА-АНГЛІЙСКУ

Ён мае назву "Motherfield", паведамляе літаратарка на сваёй старонцы ў Facebook.

Кніга выйшла ў амерыканскім выдавецтве Deep Vellum у лістападзе гэтага года. Перакладам тэксту выдання займалася паэтка Вальжына Морт і паэт Ханіф Абдуракіб.

Пад вокладкай "Motherfield" сабраныя творы Цімафеевай за розныя гады творчасці. Зборнік выдадзены на дзвюх мовах – па-беларуску і па-англійску.

Замовіць кнігу з дастаўкай па ўсім свеце можна на буйных кніжных платформах (такіх як Amazon і eBay).

budzma.org

навіны

# БЕЛАРУСКІ СВАБОДНЫ ТЭАТР СТАЎ ЛАЎРЭАТАМ REMAKE A WORLD – 2022

У легандарным тэатры LaMama 10 лістапада ў Нью-Ёрку адбыўся гала-вечар LaMama Remake a World Gala 2022. Падчас урачыстай імпрэзы былі абвешчаныя ганаровыя грамадзяне свету – сем клектываў і выканаўцаў, што ўвасабляюць ідэі свабоды творчасці, – паведамляе Мікалай Халезін у сваім тэлеграм-канале.




Сярод лаўрэатаў быў адзначаны Беларускі Свабодны тэатр, які атрымаў ганаровы стастус "за наватарскую глабальную мадэль актывізму, якая аб'ядноўвае мастацкія, геапалітычныя, экалагічныя і праваабарончыя інтарэсы, выкарыстоўваючы тэатр для стварэння руху за дэмакратыю, правы чалавека і творчыя свабоды".

Прамову арт-дырэктара Беларускага Свабоднага тэатра Наталлі Каляды сустрэлі авацыямі, а Мікалай Халезін разам з легендарным дыджэем і танцорам Кэвінам Эвіэнсам (Kevin Aviance) прэзентаваў фрагмент сваёй новай п'есы "Generation Jeans. Part II".

Сярод лаўрэатаў названыя ўкраінскі паэт Сяргій Жадан, амерыканскі грамадскі дзеяч Рычард Лэйнер (Richard Lanier), балканска-амерыканскі педагог Бека Вуча (Beka Vučo), філіпінская грамадская дзяячка Сесіль Гідотэ-Альварэс (Cecile Guidote-Alvarez), калумбійскі танцор Альвара Рэстрэпа (Alvaro Restrepo), паўднёвакарэйскі педагог у сферы мастацтва Дзюк Х'юнг Ю (Duk Hyung Yoo).

У сваім пасланні да аўдыторыі арт-дырэктар тэатра LaMama Mia Ю напісала, што прадстаўнічае ганаровае журы сваім выбарам адзначыла творцаў з усяго свету, чыя дзейнасць змяніла іх супольнасці.

budzma.org

# БЕЛАРУСЫ З САНКТ-ПЕЦЯРБУРГА СТВАРЫЛІ РЫФМАВАНУЮ ГІСТОРЫЮ ВЯЛІКІХ КНЯЗЁЎ ЛІТОЎСКІХ

"Рыфмаваная гісторыя" выкладзеная ў выглядзе комікса, дзе ўсе ўладары з часоў Міндаўга да часоў Станіслава Панятоўскага хаканалагічна распавядаюць пра гістарычныя падзеі ад свайго імя. Аўтары комікса лічаць, што такім чынам гісторыю Беларусі ўспрымаць і вывучаць прасцей.

Стварылі "Рыфмаваную гісторыю" беларусы з Санкт-Пецярбурга Зміцер і яго сяброўка Алена. Зміцер усё жыццё жыве ў Расіі, і ў 2020 годзе пачаўся яго шлях да самасвядомасці: "Я захапляюся гісторыяй і нацыянальнай культурай, мне вельмі падабаецца думка ствараць, пашыраць беларускі светапогляд у наваколлі з дапамогай сучасных сродкаў – медыя ды сацсетак", – кажа аўтар.

Хлопец упэўнены, што ва ўмовах вялікай дыяспары кожны творчы чалавек мусіць зрабіць нешта для адзначэння беларускага "Я".

Гістарычную тэматыку для творчасці аўтары абралі не проста так: "Да таго ж мы кепска ведалі, што там былі за князі, акрамя Міндаўга ды Вітаўта з Ягайлам", – прызнаецца Зміцер. На яго думку, нам катастрафічна бракуе прывабных лёгкіх матэрыялаў, якія б папулярызавалі нашую гісторыю. Таму аўтары і стварылі вершаваны праект "Рыфмаваная гісторыя" ды аздобілі тэкст вывамі князёў.

Праект аматарскі і забаўляльны, таму аўтары не прэтэндуюць на гістарычную дакладнасць.

budzma.org






# РАДА БНР ЗАСНАВАЛА МЕДАЛЬ "ПАГОНЯ"

Медалём будуць ушаноўваць беларусаў, што загінулі падчас пратэстаў і ва Украіне. Нагодай стварэння новай узнагароды сталі чароговыя ўгодкі Слуцкага збройнага чына.

"Хачу таксама скарыстацца гэтай нагодаю, каб у гэты важны для кожнага беларуса дзень абвесціць пра заснаванне новай узнагароды Рады Беларускай Народнай Рэспублікі – медаля "Пагоня". Гэтым медалём Рада БНР да складання сваіх паўнамоцтваў будзе адзначаць выбітныя заслугі перад Беларуссю і беларускім народам", – заявіла старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла.

budzma.org

**конкурс**

# ФОНД “TUTAKA” ЛАДЗІЦЬ II ДЭКЛАМАТАРСКІ КОНКУРС ДА ДНЯ РОДНАЙ МОВЫ

Паўдзельнічаць у ім прапануюць усім ахвочым у фармаце анлайн.

У ДЭКЛАМАТАРСКі КОНКУРС ДА ДНЯ РОДНАЙ МОВЫ

### Конкурс пройдзе ў два этапы:

**I этап:** Удзельнікі будуць дасылаць відэа з вершам і анкетай да **31 студзеня 2023** на адрас: konkurs@tutaka.org ці трансферам кшталту wetransfer.com, myairbridge.com, dropbox, google disk.

**Да 10 лютага 2023** журы прадставіць удзельнікаў, якія пройдуць у другі этап.

**II этап:** Фінал конкурсу пройдзе ў **Тэатры лялек (Беласток) 21 лютага 2023 года**. Удзельнікі, якія пройдуць у фінал, будуць запрошаныя арганізатарам конкурсу ў Беласток, каб вызначыць пераможцаў. Існуе магчымасць выступу у фінале ў фармаце анлайн. Квіткі ад месца пражывання да месца правядзення фінала конкурсу, а таксама пражыванне фіналістаў у Беластоку арганізатарам не аплачваюцца.

### Конкурс будзе праходзіць у трох узроставых катэгорыях:

**I катэгорыя** – дзеці да 12 гадоў,

**II катэгорыя** – дзеці і падлеткі ад 12 да 16 гадоў,

**III катэгорыя** – моладзь ад 16 гадоў і дарослыя.

Рэпертуар удзельніка конкурсу складаецца з аднаго верша ці часткі паэмы, **не большых за 5 хвілін**, абавязкова на беларускай мове. Выступ будзе ацэнены кваліфікаваным журы па наступных крытэрах:

– *падбор рэпертуару (мастацкая каштоўнасць твораў і выканальніцкія здольнасці дэкламатараў),*

– *тэхніка і выразнасць вымаўлення,*

– *агульная мастацкая выразнасць.*

У кожнай узроставай катэгорыі ў фінале будуць абраныя па тры пераможцы (1-е, 2-е і 3-е месца адпаведна). За перамогу прадугледжаны грашовыя ўзнагароды: 1 месца – 400 злотых; 2 месца – 200 злотых; 3 месца – 150 злотых.

**Дэкламатарскі конкурс да Дня роднай мовы** – гэта конкурс аматараў, якія любяць беларускую паэзію і хочуць пазмагацца за перамогу ў найлепшым выкананні верша ці вершаванай часткі твора. Ініцыятыва ладзіцца з мэтай, каб паглыбіць зацікаўленасць беларусаў ва ўсім свеце беларускай культурай, гісторыяй, літаратурай, паказаць запатрабаванасць у адчуванні сябе беларусамі і далучэнні да беларускамоўнага асяроддзя.

Пра мэты, удзельнікаў і склад журы распавёў сябра праграмнай рады фонду “Tutaka” **Зміцер Косцін**:

*“Першы такі конкурс адбыўся ў пачатку гэтага года, і тады фонд “Tutaka” спрабаваў заахвоціць аматараў беларускага паэтычнага слова паказаць свае ўменні, прачытаць свае любімыя вершы, прадэманстраваць дэкламатарскія здольнасці. Асноўнай мэтай было падтрыманне беларускай мовы як аднога з самых важных элементаў нашай тоеснасці і беларускай паэзіі ды літаратуры, як асноўнага носьбіту, які не дае нашай мове знікнуць. Вось гэтым конкурсам і надалей заахвочваем, каб людзі звярталіся да беларускай паэзіі, мовы і дэманстравалі свае мастацкія здольнасці.*

*Тады конкурс быў абвешчаны літаральна за месяц. На адборачным этапе удзел у конкурсе бралі больш за 40 чалаек, а ў вялікім фінале – 20 чалавек у трох узроставых катэгорыях.*

*Летась сябрамі журы былі беларускія паэты з Падляшша* ***Міра Лукша*** *і* ***Андрэй Сцепанюк****, тэатральны рэжысёр* ***Сяргей Курыленка*** *і паэт* ***Андрэй Хадановіч****. Пераможцаў яны абіралі не толькі паводле чысціні вымаўлення, нейкіх крытэраў выключна моўных. Шмат што значыла і экспрэсія, і тое як прадстаўляюцца гэтыя вершы, адчуванне гэтай паэзіі.*

*Гэтак плануем і сёлета, толькі мы пакуль яшчэ поўнага складу журы абвесціць не можам. Магу сказаць толькі, што, як і летась, мы хочам запрасіць як літаратараў, так і прадстаўнікоў тэатральнага мастацтва, якое пры дэкламацыі таксама даволі важнае. Думаю, што акторы, рэжысёры таксама ў стане дапамагчы, ацаніць і выбраць найлепшых дэкламатараў падчас фіналу конкурсу, які пройдзе 21 лютага 2023 года на Дзень роднай мовы”.*

**Паводле budzma.org**

**каляндар**

# ВЫЙШАЎ “БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР-2023”. МАЛЮНКІ І СЛОВЫ НА КОЖНЫ ДЗЕНЬ

**Працяг са старонкі 1.**

### 3. Дапамагае планаваць свой час

Гэта функцыя любога календара. Уласна кажучы, для таго яны і створаныя. Але ж куды прыемней планаваць, карыстаючыся прыгожым календаром на роднай мове.

### 4. Прыемны ранішні рытуал

Новы дзень – новае слова і новы малюнак. Чаму б не пачынаць сваю раніцу з таго, каб глянуць на беларускі каляндар і даведацца, якое слова выдаўцы абралі для гэтага дня? Паспрабуйце! Упэўненыя, многім такі рытуал прыйдзецца даспадобы.

### 5. Шыкоўны падарунак на Новы год і Каляды

Зімовыя святы ўжо хутка. Самы час падумаць пра падарункі. Калі вы яшчэ не вызначыліся, каму што падарыць, то вось вам падказачка: “Беларускі каляндар” – самы што ні на ёсць універсальны падарунак, які падыдзе для сяброў, для калег, бацькоў, школьнікаў... І нават зусім маленькім дзецям спадабаецца разглядаць каляровыя малюнкі. А галоўнае – гэта падарунак з беларускім характарам!

**Замовіць каляндар** з магчымасцю дасылкі **ў розныя краіны** свету можна на сайце беларускай інтэрнэт-бібліятэкі Камунікат **па qr-кодзе альбо праз e-mail** shop@kamunikat.com.



**навіны**

# “Гадзіна адсюль на ўсход”: праект, які распавядае школьнікам у Польшчы пра жнівень 2020-га

Пра дэмакратыю і правы чалавека на прыкладзе жнівеньскіх падзей: беларускія актывісты ў Польшчы ладзяць праект пад назвай “Гадзіна адсюль на ўсход” (Godzina stąd na wschód).




У межах адукацыйнай кампаніі ўжо адбылося паўсотні анлайн-лекцый у школах Мазавецкага і Падляскага ваяводстваў. Галоўная мэта – пазнаёміць маладых палякаў з цяперашняй сітуацыяй у Беларусі і растлумачыць, чаму сёння ў Польшчы такая вялікая колькасць беларускіх уцекачоў. Адзін з арганізатараў праекта, кіраўнік фундацыі “Тутака” Павел Станкевіч для радыё Унэт распавёў падрабязней пра ініцыятыву.

“Мэта праекту – паразмаўляць з моладдзю, якая хутка пойдзе на выбары, пра правы чалавека і дэмакратыю. Гэтыя з’явы мы тлумачым на прыкладзе беларускага казусу. Гэта цудоўная нагода вучням і настаўнікам распавесці пра сітуацыю з правамі чалавека ў Беларусі”.

Каб выклікаць большую эмпатыю да беларускіх падзей, “Гадзіну адсюль на Усход” задумалі як мультымедыйную гульню. Галоўныя героі – пара студэнтаў, якія ўдзельнічаюць у масавых пратэстах, а потым становіцца ахвярамі рэпрэсій. Застацца ў краіне, пайсці на чарговую дэманстрацыю або эміграваць: рашэнні і адказнасць за іх прымаюць вучні. Дарэчы, кожная лекцыя, кажа Павел Станкевіч, абавязкова пачынаецца з пытання пра тое, якія асацыяцыі ў польскіх школьнікаў выклікае слова “Беларусь”.

“Спачатку гэта вельмі стэрэатыпныя ўяўленні пра Беларусь: рэжым, вайна, трактар, беднасць і гэтак далей. Але калі мы вяртаемся да асацыяцыяў напрыканцы заняткаў, адказы могуць быць зусім іншыя. Дзеці ўжо разумеюць больш пра сітуацыю ў Беларусі. Таксама мы прапануем ім зайсці на сайт “Вясны”, пачытаць пра палітвязняў і паспрабаваць напісаць ім лісты”.

Невыпадковая і назва праекта: “Гадзіна адсюль на ўсход”. Прыкладна гадзіна аддзяляе сталіцу Падляскага ваяводства – Беласток – ад бліжэйшай мяжы з Беларуссю. І ўсё ж для многіх палякаў наша краіна – сапраўдная Terra Incognita.

“Палякі больш адкрытыя на тое, што адбываецца ў заходніх і паўднёвых краінах. Для турызму Беларусь таксама не самы папулярны кірунак. Аднак яшчэ з пачатку 90-х беларусы Падляшша марылі пра агульную трансгранічную зону. Каб можна было свабодна перамяшчацца, пабачыць сваіх родзічаў і сем’і, якія былі раз’яднаныя мяжой”.

Праект “Гадзіна адсюль на ўсход” ажыццяўляцца ў польскіх школах з верасня. Наступная кропка кампаніі – стварэнне сайта, дзе кожны вучань зможа прайсці інтэрактыўны квэст, а настаўнікі, дзякуючы гэтым лекцыям, будуць мець напрацаваны матэрыял для таго, каб паразмаўляць з маладымі людзьмі пра свабоду і чалавечыя каштоўнасці на прыкладзе беларускай сітуацыі.

“Жнівень 2020 года, якім бы ён ні быў страшным, паказаў, што беларусы – сіла”.

**radiounet.fm**

# “Вядзьмар” па-беларуску: у Варшаўскім універсітэце прайшла творчая сустрэча з перакладчыцай Кацярынай Мацієўскай

На кафедры беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта адбылася творчая сустрэча з перакладчыцай Кацярынай Мацієўскай. Адна з апошніх яе ўзнагарод – Прэмія Карласа Шэрмана за пераклад зборніка апавяданняў Анджэя Сапкоўскага “Апошняе жаданне”. У шырокім ужытку кніжка вядомая пад назвай “Вядзьмар”, а паводле яе сюжэта распрацаваная аднайменная папулярная камп’ютарная гульня. Знакамітае фэнтэзі Мацієўская пераклала за месяц.




На сустрэчы аўтарка падрабязна адказвала на пытанні студэнтаў і шчыра распавядала сакрэты сваёй перакладчыкай творчасці.

“Вельмі цяжка часам проста злавіць інтанацыю. Яе трэба слухаць і пакінуць свае амбіцыі ў іншым месцы. Гэта не твой твор. Аўтары арыгіналу непагрэшныя, хаця вельмі хочацца заўсёды нешта паправіць”.

На мерапрыемстве прысутнічалі студэнты і выкладчыкі кафедры беларусістыкі. Арганізавала ж сустрэчу кандыдат філалагічных навук, аўтар курса тэорыі і практыкі перакладу Вольга Трацяк.

“На такіх сустрэчах з прафесіяналамі мы перакладаем зярняткі ведаў нашым студэнтам, якія пасля пераймаюць гэты досвед. Можа, кагосьці натхніць праца перакладчыка ў будучыні”.

Падчас сустрэчы, якая доўжылася амаль дзве гадзіны, Кацярына Мацієўская дала слухачам таксама практычныя парады, якія дапамогуць зрабіць якасны пераклад: не саромецца звяртацца з пытаннямі да калег і імкнуцца найперш перадаць мелодыку, “інструментоўку” першакрыніцы.

Свой шлях яна, дарэчы, пачала ў БДУ, дзе скончыла беларускую філалогію. Рабіць пераклады пачала пасля магістратуры.

“Усё пачалося з “Перакладчыцкай майстэрні” Андрэя Хадановіча. Ці не ўсе мае калегі прайшлі праз яе. Увогуле, я перакладала з 14 моў свету, але праз 15 гадоў працы прыйшла да польскай. Больш за ўсё мне б хацелася, каб маё імя асацыявалі з перакладамі твораў Баляслава Лесьмяна”.

Студэнты ж у сваю чаргу дзяліліся ўражаннямі ад творчага знаёмства з Кацярынай Мацієўскай:

“Вельмі спадабалася, што прафесіянал, які шмат чаго дасягнуў у сваёй сферы, так адкрыта і шчыра падзяліўся сваімі ведамі”.

**radiounet.fm**

**навіны**

# У ЛОНДАНЕ ПАХАВАНЫ СЛЫННЫ ЛІТАРАТУРАЗНАЎЦА АНДРЭЙ КАЛЯДА

Слынны беларускі літаратуразнаўца, перакладчык і мэтр культуры беларускага маўлення Андрэй Каляда памёр 13 кастрычніка ў Мінску, але ягоны прах быў пахаваны 18 лістапада на Бромптанскіх могілках у Лондане. У брытанскай сталіце жыве дачка Андрэя Каляды – Наталля Каляда з мужам Мікалаем Халезіным.




Сціплая і сардэчная цырымонія развітання адбылася ў могілкавай капліцы. Службу правёў святар Сяргей Стасевіч. Цяпер на слынных лонданскіх могілках з'явілася новае беларускае месца ўшанавання памяці і наведвання. Апрача могілкі Андрэя Каляды ў Бромптанскім некрапалі пахаваныя іншыя слынныя асобы: лідарка брытанскага суфражысцкага руху Эмэлін Панкгерст, пісьменнік і стваральнік слова "фальклор" Уільям Томс, мастак Валенцін Прынсэп, палярны даследчык Эдвард Белчэр, геалагіня Шарлота Мэрчысан і іншыя.

Навуковец і педагог пакінуў важны, просты і такі аптымістычны запавет беларусам, многія з якіх у час беларускага гвалту і вайны зусім пабач згубілі арыенціры: "Трэба жыць – рабіць сваё, а не існаваць, не дажываць".

**Уладзіслаў Гарбацкі "Новы час"**

# У ЗША НА АЎКЦЫЁНЕ ПРАДАЛІ СКРАДЗЕНУЮ НАЦЫСТАМІ КАРЦІНУ ШАГАЛА

Карціна пад назвай "Бацька" належыць руцэ беларускага мастака Марка Шагала. Продаж адбыўся ў аўторак, 15 лістапада, у аўкцыённым доме Phillips. Карціну набылі за 7,4 мільёна даляраў.



Карціну Шагала 1911 года "Бацька", напісаную алеем на палатне, купіў у 1928 годзе польска-яўрэйскі скрыпічны майстар Давід Цэндэр. Ён страціў сваю маёмасць, калі быў вымушаны пераехаць у Лодзінскае гета. Дэпартаваны ў Асвенцім, дзе былі забітыя яго жонка і дачка, ён выжыў і пераехаў у Францыю ў 1958 годзе, дзе памёр у 1966 годзе, так і не завалодаўшы карцінай.

Тым часам праца зноў з'явілася на выставах, і аказалася, што яе купіў сам Марк Шагал, верагодна, у перыяд паміж 1947 і 1953 гадамі. Пасля таго, як мастак памёр у Францыі ў 1985 годзе, карціна ў 1988 годзе трапіла ў нацыянальныя калекцыі, а затым твор быў замацаваны за цэнтрам Пампіду і перададзены на захоўванне ў Музей яўрэйскага мастацтва і гісторыі ў Парыжы.

Французскі парламент у пачатку года аднагалосна прыняў закон аб вяртанні 15 работ яўрэйскіх сем'яў, абрабаваных нацыстамі. Тагачасны міністр культуры Разэлін Башэло назвала гэта "першым крокам", адзначыўшы, што іншыя скрадзеныя творы мастацтва і кнігі ўсё яшчэ захоўваюцца ў дзяржаўных калекцыях.

**The Times of Israel**

## Беларускі каляндар памятных дат на снежань 2022 года

**2 снежня**
- 120 гадоў таму, у 1902-м, нарадзіўся Анатоль Вольны, пісьменнік. Расстраляны ў 1937-м.

**3 снежня**
- 115 гадоў таму, у 1907-м, нарадзіўся Рыгор Крушына, паэт. Памёр у 1979-м.

**5 снежня**
- 75 гадоў таму, у 1947-м, нарадзіўся Алесь Разанаў, паэт. Памёр у 2021-м.

**6 снежня**
- 75 гадоў таму, у 1947-м, нарадзіўся Георгій Ліхтаровіч, фотамастак, літаратар.

**8 снежня**
- 85 гадоў таму, у 1937-м, памёр Антон Грыневіч, фалькларыст.
- 85 гадоў таму, у 1937-м, расстраляны Ігнат Дварчанін, скарыназнаўца.

**10 снежня**
- 170 гадоў таму, у 1852-м, нарадзіўся Вандалін Шукевіч, этнограф. Памёр у 1919-м.

**11 снежня**
- 20 гадоў таму, у 2002-м, памёр Сяргей Грахоўскі, пісьменнік.

**13 снежня**
- 115 гадоў таму, у 1907-м, нарадзіўся Мікалай Лапіцкі, святар, дзеяч эміграцыі. Памёр у 1976-м.

**15 снежня**
- 85 гадоў таму, у 1937-м, нарадзіўся Яўген Ждан, мастак. Памёр у 2016-м.
- 85 гадоў таму, у 1937-м, нарадзіўся Герман Кірылаў, пісьменнік.

**16 снежня**
- 60 гадоў таму, у 1962-м, нарадзіўся Валяр'ян Янушкевіч, скульптар.

**18 снежня**
- 105 гадоў таму, у 1917-м, распачаўся Першы Усебеларускі з'езд.

**20 снежня**
- 85 гадоў таму, у 1937-м, расстраляны Сцяпан Некрашэвіч, навуковец.
- 85 гадоў таму, у 1937-м, расстраляны Міхаіл Піятуховіч, літаратуразнавец.

**22 снежня**
100 гадоў таму, у 1922-м, нарадзілася Алена Васілевіч, пісьменніца. Памерла ў 2021-м.
- 85 гадоў таму, у 1937-м, расстраляны Раман Семашкевіч, мастак, скульптар.

**23 снежня**
- 100 гадоў таму, у 1922-м, нарадзілася Вольга Ладыгіна, архітэктар. Памерла ў 2008-м.

**24 снежня**
- 115 гадоў таму, у 1907-м, нарадзіўся Анатоль Шыбнёў, мастак. Памёр у 1990-м.

**25 снежня**
- Раство Хрыстова ў цэрквах, якія карыстаюцца грыгарыянскім календаром.

**26 снежня**
- 85 гадоў таму, у 1937-м, нарадзіўся Уладзімір Гніламёдаў, літаратуразнавец.
- 85 гадоў таму, у 1937-м, расстраляны Мікалай Каспяровіч, мовазнавец.

**27 снежня**
- 195 гадоў таму, у 1827-м, памёр Ян Голанд, кампазітар.

**31 снежня**
- 220 гадоў таму, у 1802-м, нарадзіўся Максімільян Станіслаў Рыла, філосаф, археолаг, арыенталіст, каталіцкі місіянер. Памёр у 1848-м.

**Беларусы ў свеце**
№ 11 (246), лістапад 2022
Інфармацыйны бюлетэнь
Супольнасць беларусаў
свету "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандраценка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А. Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

zbsb.org e-mail: zbsb.minsk@gmail.com